


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 39 (1074) БЕЛАСТОК 26 ВЕРАСНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.

## Пуцяводныя думкі

Хто сам не любіць нікога, таго, здаецца мне, таксама ніхто не любіць. *Дэмакрыт*

Толькі свабода думкі можа выхаваць людзей вялікадушнымі і чалавечнымі. *П. Гольбах*

Як бы ні вялікі быў ваш поспех — падрыхтуйцеся пачуць крытыку. Калі вы ўразлівы, вас менш зняважаць нападкі ворагаў, чым заступніцтва сяброў.
*Д. Дзідро*

*Новыя вершы*

## ХЛЕБНЫЯ СЛОВЫ

*Адценне слоў — не глупства,*
*Ты ім не пагарджай.*
*Скарынка. Скіба. Луста.*
*Акраец. Каравай.*

*Акраец — шлях, дарога*
*І зайцаў хлеб лясны.*
*Скарынка — сум, трывога*
*І боль былой вайны.*

*Здараецца, вядома,*
*Што, выпіўшы ў гасцях,*
*Грызе скарынку дома*
*Пахмурны халасцяк.*

*А скіба — дзень вясновы.*
*Ралля. Плугі. Сяўба.*
*Наш хлеб — жыцця аснова,*
*Працяг і барацьба.*

*А луста — слова сытнае,*
*Духмянае і шчодрае.*
*Яно ад маці — сітнае*
*Ці наздравата-чорнае.*

*А каравай — вясельнае,*
*Святочнае яно.*
*На ручніку нясе яно*
*І радасць, і віно.*

*І справа тут не ў ежы,*
*А ў смачным змесце слоў,*
*І ў жытнім ветры свежым,*
*І ў звоне каласоў...*

**Пімен Панчанка**



*Дуброва — жыллёвы квартал.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## БАБЯ ГАРА

— Чаму Бабя Гара, пытаеце, — шасцідзесяцігадовы яе сталы жыхар Фёдар Зубрыцкі спачатку задумваецца, але зараз жа ўсмешка асвятляе яго твар. — Бо бачыце, калі рака Нарва плыла вось тут, дзе цяпер нашыя лугі, а вакол рос непраходны лес, на пусты і глухі бераг вада выкінула нейкую бабу. Атрахнулася яна з мулу ды жабурэння, азірнулася, узабралася на пагорак, што непадалёк берага высіўся, ды і пачала на ім жыць. Так вось і павялася наша Бабя Гара.

Знаходзіцца яна ў трох-чатырох кіламетрах на ўсход ад чыгуначнай станцыі і вёскі Семяноўка, што належыць да гміны Нараўка. Складаецца Бабя Гара аж з пяці вёсачак: Бабя Гара На Версе (распаложаная на вышэй спамянутым легендарным пагорку), Бабя Гара На Нізе, Баравыя, Мядзведзі, Пасекі, а ўсяго ў іх 54 гаспадары. Маляўнічыя гэта мясціны. З поўначы зусім блізка падыходзіць рака Нарва, у якую ўпадаюць тут рэчкі: Буяўка, Калонка, Пшчолка, Цісоўскі Брод і некалькі іншых безымянных цяпер раўчукоў. З захаду атуляюць вёсачкі сасновыя пералескі, а з усходу і поўдня — магутная сцяна Белавежскай пушчы з такімі ўрочышчамі як: Будзіска, Валока, Полька, Старыя Палі, Цупрык, Язвіна. Колішнія жыхары гэтай зацішнай паляны пакінулі цэлы букет займальных назваў палёў і лугоў: Адрынка, Алёс, Барок, Барсоўны Мост, Бусленіцы, Гара, Градка, Груд, Доўгія, Здухі, Кут, Куток, Лоначкі, Могліцы, Надзел, Німержанскія, Палэм, Пацерабы, Сцежкі, Шырокі.

Не трэба быць і вялікім знаўцам тапаніміі (навукі аб мясцовых назвах), каб заўважыць, што аснову гэтага багацця складаюць назвы, звязаныя з пушчай і аваладаннем яе чалавекам. Для прыкладу, назва „Язвіна" выразна паказвае на колішняе знаходжанне тут яцвяжскага паселішча, пагорачак за вёскай — „Могліцы" — гэта старажытны могільнік, на якім знаходзяцца пахаванні з трупапалажэннямі, яшчэ і цяпер людзі знаходзяць тут чалавечыя чарапы і косці; урочышча „Будзіска" — выразны след па бытнасці тут будаўнікоў, якія ў XV-XVII стагоддзях займаліся нарыхтоўкай паташу і смалы і г.д.

(Працяг на стар. 4)

БЕЛАРУСЬ — ЧЭХАСЛАВАКІЯ

## ПРАЦЯГ СЛАЎНЫХ ТРАДЫЦЫЙ



*Вацлаў Жыдліцкі — дацэнт Карлавага універсітэта ў Празе.*

Як ні дзіўна, але шаснаццацівяковая выдавецкая дзейнасць Скарыны ў Празе многім з нас вядома лепш, чым сучасныя беларуска-чэхаславацкія культурныя сувязі. Карыстаючыся пабыўкай у Празе, мы папрасілі Вацлава Жыдліцкага, дацэнта Карлавага універсітэта, расказаць чытачам „Нівы" аб тым, што ў нашы дні робіцца ў сталіцы братняй Чэхаславакіі для азнаямлення з беларускай мовай, для папулярызацыі беларускай літаратуры.

Вось сядзім у прасторным пакоі-кабінеце, дзе паміж кніжнымі стэлажамі амаль на кожным свабодным месцы на сценах вісяць карціны. Сярод рэпрадукцый сусветных мастакоў, чэшскага Славічэка і рускага Шышкіна, звяртаюць увагу цікавыя арыгіналы. Гаспадар, заўважыўшы мой здзіўлены позірк, паясняе: „Гэта мой беларускі скарб. Калісьці мяне вельмі зацікавіла выстаўка „клоунаў" Барыса Малкіна ў Мінску. Я папрасіў пазнаёміць мяне з аўтарам — цудоўным мастаком і чалавекам. І на памяць аб нашай сустрэчы, апрача аднаго „клоуна", атрымаў вось „Яраслаўну", „Галаву старога мужчыны", нацюрморт з рыбамі і іншыя. Праўда, прыгожыя карціны? Дасюль з удзячнасцю згадваю аўтара і, гледзячы на яго творы, успамінаю „мой" Мінск і маіх беларускіх сяброў".

Цікавая размова працягваецца...

**„Ніва":** Як паведамлялася ў прэсе, у Пражскім універсітэце вывучаецца беларуская філалогія. Раскажыце, калі ласка, больш падрабязна аб арганізацыі і абсягу яе навучання?

**Жыдліцкі:** Пры кафедры рускай мовы і літаратуры нашага універсітэта існуе аддзяленне беларусістыкі і ўкраіністыкі. У рамках гэтага аддзялення, узнікшага пасля рэарганізацыі кафедры ўсходнеславянскіх літаратур, ужо шмат гадоў вывучаецца беларуская мова і літаратура. Згодна з існуючым рэгламентам, усе нашы студэнты — славісты, акрамя свайго асноўнага філалагічнага напрамку, абавязаны слухаць лекцыі па гісторыі, мове і літаратуры аднаго з іншых славянскіх народаў. Аб выбары гэтага дадатковага напрамку вырашаюць яны самі. У такім плане найбольшую зацікаўленасць беларусістыкай праяўляюць студэнты рускай філалогіі.

Пытаннямі беларускага мовазнаўства займаюцца на нашай кафедры прафесар Уладзімір Барнэт і дацэнт Мікола Затаўканюк. Першы з іх цікавіцца гісторыяй беларускай мовы, другі — сучасным мовазнаўствам. Іх навуковыя працы друкаваліся м. інш. і ў польскім журнале „Славія Арыенталіс". Я займаюся гісторыяй беларускай літаратуры.

Вынікам нашай калектыўнай працы будзе падручнік „Уводзіны да беларусістыкі", які ўжо неўзабаве атрымаюць студэнты славістыкі. У ім прадугледжаны матэрыялы па гісторыі Беларусі і гісторыі беларускай мовы, характарыстыка сучаснай беларускай мовы ў параўнанні з іншымі славянскімі мовамі, нарыс па гісторыі беларускай літаратуры, а таксама шырокая бібліяграфія прац па ўпамянутых пытаннях.

**„Ніва":** Ці Вашы зацікаўленні беларускай літаратурай абмяжоўваюцца толькі навуковай і дыдактычнай дзейнасцю?

**Жыдліцкі:** Не толькі. Шмат часу прысвячаю таксама перакладам твораў беларускіх савецкіх пісьменнікаў на чэшскую мову. За мінулыя пяць-шэсць гадоў выйшлі ў пражскіх выдавецтвах перакладзеныя мною кнігі Караткевіча „Дзікае паляванне караля Стаха" (1972) і раман „Нельга забыць" (1976), Карпюка „Данута" (1974), Адамовіча „Хатынская аповесць" (1975), Шамякіна „Сэрца на далоні" (1975), Быкава „Абеліск"

(Працяг на стар. 2)



НАШЫ САМАДЗЕЙНІКІ

*Канцавая сцэна з пастаноўкі „Адвечная песня" Я. Купалы ў выкананні гарадоцкіх самадзейнікаў.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

 




# „ТЫГРЫ“ ДЛЯ ШВЕЙЦАРЦАЎ

Пакупкі заўсёды робяцца з сэнсам. Але, як высветлілася, не заўсёды. Грамадзяне Швейцарыі былі нядаўна літаральна ашаломлены весткай аб тым, што некаторыя іх суайчыннікі з ваеннага ведамства дабіліся дазволу набыць за кошт дзяржаўнай казны 72 амерыканскія знішчальнікі маркі „Тыгр“ і выкласці на гэта астранамічную па маштабах краіны суму ў 1 170 мільёнаў франкаў.

Бессэнсоўнасць гэтай швейцарскай „здзелкі веку“ відавочная не толькі прыхільнікам традыцыйнага нейтралітэту і разважлівым ваенным спецыялістам, але і большасці радавых грамадзян, заклапочаных перш за ўсё пагаршэннем эканамічнай сітуацыі ў краіне, ростам беспрацоўя і скарачэннем дзяржаўных асігнаванняў на грамадскія патрэбы і сацыяльныя выплаты.

„Хто, адкуль і дзеля чаго хоча напасці на нейтральную Швейцарыю? Ці змогуць 72 „Тыгры“ вырашыць у ваенных адносінах пытанне аб нашай цэласці ў гіпатэтычным выпадку глабальнай вайны?“ — такія пытанні задаюць у мясцовым друку тыя, хто разглядае інтарэсы краіны з пазіцый абараназдольнасці і нейтралітэту. У абгрунтаванне сваіх адмоўных адносін да „здзелкі веку“ яны рэзонна спасылаюцца на прыклад Даніі, Нарвегіі і Галандыі. Гэтыя краіны, якія з'яўляюцца ў адрозненне ад Швейцарыі членамі НАТО і звязаны адпаведнымі абавязацельствамі, палічылі тым не менш патрэбным адмовіцца ад закупкі тых жа „Тыграў“.

Востра ставяць „пытанне аб мільярдзе“ працоўныя, прафсаюзы і іншыя прагрэсіўныя грамадскія арганізацыі.

„На канец мінулага года, — пісала нядаўна газета Швейцарскай партыі працы „Вуа уврыер“, — колькасць беспрацоўных у краіне склала больш як 26 тысяч чалавек. З таго часу індэкс росту колькасці тых, хто страціў работу, складае прыкладна 29 працэнтаў“. У якасці асноўнай прычыны скарачэння рабочых месц тут называюць адсутнасць дзяржаўных асігнаванняў на развіццё нацыяналізаваных і прыватнадзяржаўных прадпрыемстваў, на грамадскія патрэбы. Гэтыя вывады пацвердзіла і камісія па эканамічных даследаваннях Федэральнага дэпартамента грамадскай эканомікі.

Натуральна, спасылкі ўлад на недахват сродкаў гучаць рэзкім дысанансам з рашэннем асігнаваць больш чым мільярд франкаў на закупку заведама бескарысных амерыканскіх самалётаў. Працоўныя і прафсаюзы па справядлівасці лічаць гэта прамым выклікам з боку „ваяўнічых ваенных“, якія спрабуюць апраўдаць мільярдныя траты „неабходнасцю павышаць абараназдольнасць і захоўваць прэстыжныя інтарэсы“.

Абсурднасць каласальных ваенных затрат прымусіла некаторыя мясцовыя друкаваныя органы ўсумніцца ў шчырасці клопатаў ініцыятараў аперацыі „Тыгр“ аб абараназдольнасці краіны. Тым больш, што здзелка заключана з амерыканскімі авіякампаніямі, падобна да „Локхіда“, якія сумна праславілі сябе нячыстай гульнёй з краінамі-кліентамі. Так, швейцарская газета „Брунднер цайтунг“ вынесла ў загаловак артыкула, прысвечанага набыццю амерыканскіх знішчальнікаў, пытанне „Хабар — і ў нас?“. Ва ўсякім разе, у час абмеркавання гэтай здзелкі ў Федэральным савеце прадстаўнік апазіцыі Арман Фарэль адкрыта ўказаў на формы палітычнага і эканамічнага націску з амерыканскага боку, які абяцаў выгадныя пасады прафсаюзным дзеячам, мільённыя здзелкі прадпрыемцам, закупкі швейцарскага сыру сялянам.

Чаго ў канчатковым выніку будуць каштаваць Швейцарыі амерыканскія „Тыгры“ — лічыць і думаць самім швейцарцам. Але ўжо зараз у графу страт яны адносяць не толькі праславуты „мільярд з лішнім“, але і значную колькасць востра неабходных, але не створаных рабочых месц.

**М. Паўлаў**

# ПРАЦЯГ СЛАЎНЫХ ТРАДЫЦЫЙ

**(Працяг са стар. 1)**

(1975) і „Дажыць да світання“ (1976), Брыля „Птушкі і гнёзды“ (1976) і Пташнікава „Мсціжы“, якая выйдзе з друку ўжо ў бліжэйшыя тыдні.

Гэта далёка не ўсе пераклады беларускай мастацкай літаратуры, якія выйшлі ў Празе. Шмат працуюць і іншыя перакладчыкі. Напрыклад, дасюль выйшла ў нас адзінаццаць кніжак Быкава, большая частка якіх — у дасканалым перакладзе Яраслава Гулака. У мінулым годзе паявіўся пераклад „Тартака“ Пташнікава, а ў бліжэйшыя месяцы наш чытач атрымае Мележа „Людзі на балоце“ і кнігу выбраных апавяданняў А. Кудраўца.

У галіне перакладаў беларускай паэзіі працуюць Ілья Гайслер і Яраслаў Кабічэк. У іх перакладзе змешчана ў сёлетнім ліпеньскім нумары „Световай літэратуры“ падборка вершаў Танка, а ў 1977 г. выйдзе асобны зборнік паэзіі гэтага аўтара. На 1978 год плануецца выпуск анталогіі дзесяці сучасных беларускіх паэтаў, які выйдзе ў выдавецтве „Чэскословэнскі спісователь“. Часта прыходзіцца мне служыць моўнай кансультацыяй тым маім калегам, якія ў сваёй перакладчыцкай працы карыстаюцца тэкстамі твораў, выдадзеных у перакладзе на рускую мову. Агульная заўвага: на працягу апошніх пяці-шасці гадоў зроблена ў нас для папулярызацыі беларускай літаратуру больш, чым за ўсе мінулыя дзесяцігоддзі.

**„Ніва“:** Гэта велізарная праца. З прыемнасцю віншуем Вас і Вашых калег. Скажыце яшчэ, ці пераклады не адбіваюцца адмоўна на Вашай навуковай рабоце?

**Жыдліцкі:** Думаю, што не. Бачыце, праца над перакладам дае магчымасць лепш пазнаць аўтара, глыбей пранікнуць не толькі ў свет яго ідэй, але таксама ў яго творчую майстэрню, пазнаёміцца з „тэхнічнымі“ аспектамі яго творчасці. Некаторыя перакладзеныя творы (напр. „Хатынская аповесць“ Адамовіча, „Дажыць да світання“ Быкава, ці „Мсціжы“ Пташнікава) дапоўнены маімі пасляслоўямі — вялікімі літаратуразнаўчымі артыкуламі. Адзін з іх — пра „Хатынскую аповесць“ Адамовіча — друкаваўся ў мінскім часопісе „Нёман“. Падрыхтаваў таксама ўступ да зборніка паэзіі Танка, аб якім успамінаў вышэй. Мною апрацаваны і раздзел аб беларускай літаратуры, які ўвайшоў у выпушчаны ў мінулым годзе сёмы том „Гісторыі сусветнай літаратуры“, якая выдаецца ў Загрэбе.

**„Ніва“:** Вашы намеры на будучыню?

**Жыдліцкі:** Спадзяюся, што ў наступным годзе выйдзе перакладзеная мною аповесць Караткевіча „Хрыстос прызямліўся ў Гародні“. Зараз працую над перакладам кніжкі Адамовіча, Брыля і Калесніка „Я з вогненнай вёскі“, у якім ілюстрацыйны матэрыял будзе дапоўнены новымі дакументальнымі здымкамі, знойдзенымі ў берлінскіх архівах. У выдавецкім плане — „Атланты і карыятыды“ Шамякіна. Хачу перакласці аповесць Пташнікава „Найдорф“, якую лічу адной з найлепшых у сучаснай беларускай літаратуры. Вабіць таксама Вольга Іпатава — аўтар высокай культуры і эрудыцыі. Вопыт перакладчыцкай работы спадзяюся выкарыстаць для апрацоўкі літаратуразнаўчага даследавання „Тыпалогія стыляў сучаснай беларускай прозы“.

**„Ніва“:** Можа яшчэ некалькі слоў аб тым, як ацэньваеце творчасць беларускіх літаратараў Беласточчыны?

**Жыдліцкі:** Беларуская літаратура Беласточчыны таксама нам не чужая. Мяне, як перакладчыка прозы, асабліва цікавіць Яновіч. Яго трапныя мініяцюры з глыбокім псіхалагічным зместам пакідаюць вялікае ўражанне. Магчыма, у недалёкай будучыні зможам апублікаваць у перакладзе на чэшскую мову падборку мініяцюр Яновіча. На мой погляд, нештодзённай з'явай на беларускім парнасе з'яўляецца Бурш. І не толькі ў паэзіі, але і ў галіне мовы. Бурш паказаў, што беларуская паэтычная мова ў нічым не ўступае лепшым узорам французскай паэзіі. Думаю, што аб усіх здабытках вашага літаратурнага асяроддзя мы яшчэ мала ведаем.

**„Ніва“:** Скажыце, калі ласка, на заканчэнне, што ўплыло на Вашу зацікаўленасць беларускай літаратурай і яе папулярызацыяй у Чэхаславакіі?

**Жыдліцкі:** Мабыць, выпадковасць, а дакладней — уражанне, якое выклікаў у мяне верш Максіма Рыльскага „Сябрам беларусам“. Ад гэтага і пачалося...

Размаўляў **Юры Туронак**



*Прага. Стары рынак.*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“

**У Чыжоўскай гміне ● Новы год у белліцэі ● Вопратка з XVIII стагоддзя ● Беларускія гадзіннікі ● Новая паэма Алеся Барскага ● З думкай аб драмгуртках ● Бізун аб грошах ● Як я стаў карэспандэнтам ● Весткі з Беластока, Слойкі, Семяноўкі, Вітава, Чаромхі, Гурнага, Нараўкі, Бельска, Белак ● Калі сняцца булкі ● Песня „Dziś prawdziwych Cyganów już nie ma”.**

## Ці ведаеце, што...

...у Беластоцкім ваяводстве ў 1975 годзе дзейнічала 107 „Клубаў селяніна“, у тым ліку адзін з іх быў у ПГР-ы, адзін у сельскагаспадарчым кааператыве і шэсць у гмінных цэнтрах культуры (ГОК-ах).

...ГС-ы арганізавалі 22 курсы, 77 гурткоў зацікаўленняў, 33 пункты продажы кніжак, 185 розных выставак, 197 розных конкурсаў, а таксама правялі 548 дакладаў і сустрэч з дзеячамі навукі, культуры і мастацтва.

...цэнтры „Сучасная гаспадыня“ арганізавалі 12 школ хатняй гаспадаркі для 253 слухачоў, 76 розных курсаў для 1 903 удзельнікаў, 424 даклады і гутаркі для 7 116 слухачоў, 97 сустрэч з грамадскімі дзеячамі і працаўнікамі навукі, у якіх прыняло ўдзел 2 848 слухачоў, а таксама правялі 112 розных конкурсаў для 3 036 удзельнікаў. (мг)




**Sobota 25.IX.** 6.00 Radiowo-Tel. Szk. Śred. Mat. 6.30 Biolog. 9.00 U kresu — film fab. węg. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 15.00 Red. Szk. zap. 15.10 Pr. I prop. 15.25 Pr. dnia. 15.30 Dla dzieci. 16.00 Dzien. 16.10 Obiektyw. 16.30 Kółko i krzyżyk — teletur. 16.50 Za kierownicą. 17.10 Sobota Młodych. 18.10 Wszystko za wszystko. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 JERZY POŁOMSKI w pr. Wszystko dla pań. (kolor) 21.20 Dzien. 21.40 Sport. 22.10 Zdobycz — film fab. fr. wł.

**Niedziela 26.IX.** 6.25 Tech. Rol. Fiz. 6.55 Upr. rośl. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp. radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.45 Pr. dnia. 8.50 Sport. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.40 Fatima — film fab. radz. 12.15 Dzien. 12.35 Lato w Żelazowej Woli — film muz. 13.05 Radar. 13.25 Złoto Peru — film dok. 14.00 Dla dzieci. 14.45 U stóp Himalajów — film przyr. fr. 15.40 Los. duż. Lot. 15.55 Licytacja. 17.00 Sport. 17.15 Tele-Echo. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.25 Wojna i pokój — film fab. ang. cz. I. pt. Imieniny. 21.10 Kwiaty dla budowlanych. 22.10 Sport.

**Poniedziałek 27.IX.** 12.45 Radiowo-Tel. Szk. Śred. J. pol. 13.25 Hod. zwierz. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.40 Echo stad. 18.10 Po prostu życie — film ser. radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: E. O'Neill — Zmierzch długiego dnia — spektakl USA. 22.30 Dzien. 22.45 Między nami rodzicami.

**Wtorek 28.IX.** 6.00 Radiowo-Tel. Szk. Śred. J. pol. 6.30 Tech. Rol. Hod. zwierz. 9.00 Dla szkół (kl. III lic.) J. pol. W. Szekspir — Hamlet. 9.45 Imieniny — film fab. ang. cz. I (Wojna i pokój). 11.05 Dla szkół (kl. III lic.) J. pol. — G. Zapolska. Moralność pani Dulskiej. 12.00 Dla szk. (kl. IV lic.) L. Kruczkowski. Niemcy. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Chem. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Na wielkim i małym ekr. 17.35 Studio Mł. 18.25 Sto pytań do K. Pendereckiego. 19.15 Przyp. radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Film fab. 21.50 Interstud. 22.20 Dzien. 22.35 Sport.

**Środa 29.IX.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Chem. 10.00 Film fab. 12.00 Dla szkół (kl. VII—VIII) Wych. muz. Muzykujemy. 12.45 Radiowo-Tel. Szk. Śred. Fiz. 13.25 Tech. Rol. Chem. 15.50 NURT. 16.15 Pr. dnia. 16.20 Dzien. 16.30 Dla dzieci: 16.55 Sport. 18.50 Listy i polityka. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Film fab. 21.20 Sport. 22.10 Dzien.

**Czwartek 30.IX.** 6.00 Radiowo-Tel. Szk. Śred. Fiz. 6.30 Chem. 9.00 Dla szkół (kl. I lic.) J. pol. Homer. Iliada. 10.00 Film fab. 12.30 Decyzje piętnastolatków. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z bratkiem. 18.15 Laureaci Leningradu. 18.40 Sport. 19.15 Przyp. radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr Sensacji: F. Durbridge — Brutalna gra. 21.20 Pegaz. 22.05 Pr. publ. 22.25 Dzien.

**Piątek 1.X.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Mech. rol. 8.30 Marysia — film fab. CSRS. 10.00 Dla szkół (kl. IV) Muzeum Wojska Pol. 11.05 (kl. I—III lic.) Wych. tech. Org. pracy. 12.45 Radiowo-Telewizyjna Szkoła Średnia — Matematyka 13.25 Tech. Rol. Mech. rol. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Zrób to sam. 18.05 Inf. Wyd. 18.20 Film dok. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Kto się boi Wirginii Woolf — film fab. ang. 22.25 Dzien. 22.40 Alewizja nr 3.




**Piątek 24.IX** — 8.15 Spektakl TV. 14.20 Film fab. 17.00 Koncert. 17.50 Spektakl TV. 19.30 Koncert. 20.30 P. ręczna (kobiety). ZSRR—NRD.

**Sobota 25.IX** — 8.30 Spektakl TV. 12.10 Film fab. 15.00 W świecie zwierz. 17.00 P. noż. Dynamo (Mińsk) — Dniepr. 18.45 Piosenka — 76. 19.30 Panorama film.

**Niedziela 26.IX** — 13.00 Pr. muz. 16.15 Klub film. 17.30 Film fab. 20.30 Tańczcie z nami.




**Białowieża** Wążżż... — USA 28—29. Doktor Mladen — jug. 30.IX. — 1.X. Zeznanie komisarza policji przed prokuratorem republiki — wł. 2—3.X.

**Dubicze Cerkiewne** Wążżż... — USA. Przygody małego Bimbo — rum. 1—3.X.

**Gródek** Wążżż... — USA 2—3.X.

**Michałowo** Taka ładna dziewczyna — fr. 28—29.IX. BS 38—15 — NRD 30.IX.—1.X. Wielki Gastby — USA 2—3.X.

**Mielnik** Pojedynek na szosie — USA 29.IX. Trzej muszkieterowie — panam. 2—3.X.

**Milejczyce** — Nocne widma — ang. Polska gola — pol. 1—3.X.

**Narewka** — Gdzie jest jubilat — węg. Deps — jug. 1—3.X.

**Nurzec** — Hazardziści — pol. 2—3.X.

**Orla** — Szerokiej drogi kochanie — pol. Przygoda na wagarach — NRD 1—3.X.

**Rajsk** — Pułapka — pol. Motyle — pol. 1—3.X.

**B.Z.Graf. Zam. 2049 F-4.**

# СВЯТА УРАДЖАЮ У БОЦЬКАХ

На палях не чуваць ужо стракатання збожжаўборачных камбайнаў, жняярак ды шоргату кос у збажыне. Ужо ў стадолы звезены апошнія снапы. У такую пару надыйшоў час раднага сялянскага свята — дажынак.

У першую нядзелю верасня адбыліся гмінныя дажынкі ваяводскага характару ў Боцьках. Заслужыла на гэта Боцькаўская гміна добрымі прадукцыйнымі вынікамі. У мінулым годзе заняла яна першае месца ў ваяводстве ў конкурсе „Гміна — майстрам гаспадарнасці“. Жывуць тут шырокавядомыя не толькі ў сваёй гміне перадавыя земляробы: І. Вонсік



*Ганаровая трыбуна дажынак.*



*Моладзь з Кляшчэляў прыехала на дажынкі з найпрыгажэйшым дажынкавым вянком.*

(Боцькі), Э. Завадскі (Якубоўскія), Т. Невяроўскі (Боцькі), Ф. Пятроўскі (Седлецы), Ч. Новак (Андрыянкі), Ф. Янкоўскі (Пётрово-Кшывоколы), А. Турковіч (Боцькі), П. Іванюк (Дубно), В. Максімюк (Малочкі), М. Якімюк с. Язэпа (Нурэц) і іншыя.

На ўрачыстасць свята плёнаў прыбылі прадстаўнікі найвышэйшых ваяводскіх палітычных і адміністрацыйных улад, запрошаныя госці з суседніх гмінаў. Дэлегацыі з навакольных гмінаў прывезлі з сабою прыгожыя дажынкавыя вянкі.

З самай раніцы ля шашы Бельск-Боцькі адбыліся спаборніцтвы ў аранні. Удзельнічала ў іх 13 трактарыстаў. Найлепшым быў К. Бараноўскі са спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў у Кнышыне, другое месца заняў З. Цёлэк з ПГР у Бельску, а трэцяе — М. Карнілюк з СКР у Боцьках.

Перад афіцыйнай часткай дажынак сакратар Ваяводскага камітэта партыі — У. Юшкевіч і ваявода З. Спрыха супольна з гміннымі ўладамі наведалі гаспадаркі дажынкавай старасціны І. Вонсік у Боцьках і старасты Э. Завадскага ў вёсцы Якубоўскія, якія спецыялізуюцца ў гадоўлі быдла.

Гаспадаром дажынак быў сакратар Гміннага камітэта партыі ў Боцьках — В. Леўчук. Яму быў паднесены прыбраны традыцыйны бохан хлеба і ён шчыра падзякаваў усім хлебаробам за паспяховую ўборку сёлетніх збожжавых культур, за большы чымсьці ў мінулым годзе ўраджай, за іх плённую працу.

У час дажынкавай урачыстасці найлепшыя гаспадары атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды. Сярэбраным Крыжам Заслугі быў узнагароджаны Б. Качынскі з Боцек, Бронзавым Крыжам Заслугі — А. Малец з Шашылаў і адзнакамі „Заслужаны для Беласточчыны“ — Э. Завадскі, Ф. Лукашэвіч, П. Іванюк і С. Максімюк.

У мастацкай частцы выступілі калектывы з Боцек, Сямяціч, Бельска, духавы аркестр з Беластока. Асабліва спадабалася выступленне капелы „Сідоры“ з Сямяціч.

Вялікім зацікаўленнем карысталася алімпіяда сельскагаспадарчых ведаў. На дажынкавай пляцоўцы можна было паглядзець цікавую сельскагаспадарчую выстаўку: малавядомую гародніну, садавіну, сельскагаспадарчыя машыны. У праграме дажынак былі яшчэ спартыўныя розыгрышы, паказы скачкоў на парашутах і забава. Увесь час у пасляабеднюю пару плылі прывабныя мелодыі, гучалі сучасныя і народныя песні. Тут кожны мог знайсці тое, што яго цікавіць.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



*Старасціна І. Вонсік і староста Э. Завадскі з традыцыйным боханам хлеба.*



*Капэла з Турны Малой каля Сямяціч.*



*Узнагароджаныя хлебаробы з Боцькаўскай гміны.*




## 98 ЦІ 100?

Той, хто думае, што з Белавежы ў Беласток такая самая адлегласць, як з Беластока ў Белавежу, дужа памыляецца. Я сам так думаў, але вывелі мяне з памылкі нашыя чыгуначнікі.

Давялося мне аднойчы ехаць у Беласток. Выкупіў я ў Белавежы білет, сеў у цягнік і паехаў. Не скажу, даехаў шчасліва, хоць спацеў неміласэрна — такая была цісканіна ў вагоне. У Беластоку нічога не ўладзіў, толькі нахадзіўся, як дурны. Стомлены і злосны прыйшоў на станцыю, купіў білет у Белавежу і неўзабаве быў ужо ў дарозе. Каб час доўга не цягнуўся, браўся я і чытаць газету, і драмаць, а, нарэшце, пачаў разглядаць свае білеты. І тут мой які-такі спакой чэрці ўзялі. Вось на білеце, купленым у Белавежы, адлегласць да Беластока 100 км, а на білеце, купленым у Беластоку, адлегласць да Белавежы ўжо толькі 98 км. Дзе ж падзеліся тыя 2 кіламетры?

Вось так і знайшоўся мне занятак. Думаў я, думаў і ніяк не мог рашыць гэту загадку. Можа, паспелі выпраставаць чыгуначны пуць? За Гайнаўкай нават выменьвалі шпалы, але нідзе не прыкмеціў я, каб лінію пусцілі новым шляхам. Глянуў я яшчэ раз на білеты, каб праверыць, ці мяне часам не надурылі на пару грошаў? Але не. За 100 кіламетраў заплаціў я столькі ж, што і за 98. Пачаў я баяцца, каб не прыйшло машыністу або кандуктару ў галаву спыніць цягнік на 98-ым км і высадзіць мяне. А што, верыць ім, калі ў іх такая плаўнасць? Кіламетр далей, кіламетр бліжэй. На гадзіну пазней, затое ніколі на гадзіну раней. На шчасце, натрапіў я гэтым разам на сумленных службоўцаў, і хоць з 10-мінутным спазненнем, ды ўсё-такі давезлі мяне на соты кіламетр (а мо на 98-ы?)

Адно мяне цяпер толькі турбуе. Колькі па праўдзе кіламетраў налічвае чыгуначны пуць Беласток-Белавежа? 98 ці 100? Ну, бо немагчыма, каб тая самая адлегласць была іншай у залежнасці ад таго, з якога канца яе мерыць. Хачу, апрача таго, ведаць, хавацца мне на два кіламетры перад Белавежай у туалет ці не? Бо на добрае сэрца кандуктара за кожным разам не варта спадзявацца! Затрымае цягнік, высадзіць на свежае паветра, і тады тупай ножкамі ў Белавежу. І нічога не скажаш. Давёз на 98-ы кіламетр? Давёз! А з двух кіламетраў ужо відаць Белавежа. Таму можна лічыць, што давёз і да Белавежы.

**П. Байко**




## ДАРОЖКА

*Я ў Лявонявіч радзіўся,*
*У Лявонявіч жыву,*
*Малады ў бядзе нажыўся*
*У праклятую вайну.*
*У лет семнаццаць на работу*
*Мяне немец зацягнуў.*
*Працаваў ў яго да поту,*
*кульбай гладзіў мне спіну.*
*Уцякаў праз тыя горы*
*па нямецкай старане,*
*дзе мазурскія азёры,*
*там прылапалі мяне.*
*І зноў лагер, зноў няволя*
*і у дзень, і па начах.*
*Ціха вёска, родна поле*
*мне стаяла у вачах.*
*Пабаяўся больш ўцякаці,*
*Красну Армію даждаў,*
*пайшоў разам ваяваці,*
*на Берлін фашыстаў гнаў.*
*І няраз з сябрамі радам,*
*і з вінтоўкаю сваёй,*
*калі бухнула снарадам,*
*быў завалены зямлёй.*
*Зведаў свету я нямала,*
*не адну бачыў зямлю,*
*а шчаслівая дарожка*
*была ў вёсачку маю.*

**В. Грыка**
Лявонавічы

вершы, абсалютна не смешны. Наадварот, сумны. Верш „І плач не паможа“ — гэта свайго роду рэестр безупынна растучага зла. Герой твора — любімы сынок вырастае на нашых вачах са свавольнага хлапчука на паўзлачынцу. Пісьменнік цікава прадстаўляе анатомію псіхічнай і практычнай паталогіі. На пачатку хлопчык усё псуе, ломіць, разбівае, пасля ў школе рве кнігі, у юнацтве пачынае заглядаць у кілішак, з войска шле безупынна бацькам лісты і дамагаецца грошай на шаленствы, вярнуўшыся з войска, напіваецца ў шынку напавал, і маці адтуль выцягвае яго за ногі.

Драматычны камізм прадстаўленых у творы сітуацый заключаецца між іншым у тым, што, незалежна ад учынку сына, бацькі заўсёды перакананы, што гэта справа часовая, выпадковая і што ў будучыні ўсё ўладкуецца і сын выйдзе на ўласцівую дарогу. Тым часам сын няспынна брыдзе ў сляпы завулак. Адвечная схільнасць бацькоўскага і матчынага сэрца — прабачаць — у творы паказана ў спецыфічным асвятленні. Паўторнасць фразы: „Гэта так здаецца“ і „Гэта так вядзецца“ мае іранічны характар. Фразай гэтай аўтар як бы падкрэслівае нармальнасць ненармальнага, пастаянства і паўторнасць таго, што ў жыцці ёсць, але быць не павінна.

Аб сумным гумары можам гаварыць таксама ў выпадку верша „Жаласлівая матка і цыган“. У творы паказаны сын, які маральна і фізічна здзекваецца над роднай маці. Гэты чалавек кусае руку, якая яго корміць. Зламаная бядой матка ідзе ў воласць са скаргай на сына. Старшыня прымае хутка рашэнне: пакараць выраддлівага сына розгамі. І тут наступае камічны паварот сітуацыі. Напалоханая маці замест свайго сына паказвае чыноўнікам абсалютна невіноўнага цыгана, які якраз паявіўся перад воласцю, называючы яго сынам. Гэта яму чыноўнікі ўсыплюць дзесяткі розгаў і яшчэ загадаюць адвесці маці дахаты.

Верш цікавы між іншым і тым, што антытрадыцыйна паказвае цыгана. Амаль заўсёды ў беларускай літаратуры цыган паказаны як прайдоха, хітрэц, ашуканец. Тут, наадварот, выступае ён у ролі ахвяры чыёйсьці хітрасці.

# У сямейным кругу



Усю шырыню стала займалі пакуль што яшчэ сырыя мясныя піражкі, якія Марыя Буйко вопытна і спраўна рыхтавала да абеду. Толькі навошта аж столькі? Быў жа гэта звычайны будні дзень, і нічога не паказвала на тое, што ў сям'і Буйкаў рыхтуецца нейкая ўрачыстасць.

— Бачыце, — паясніла гаспадыня, — калі чалавек салідна папрацуе, дык і перакусіць яму трэба парадачна. А мы на яду не скупімся. Хвала богу, дажыліся, дачакаліся такога часу, што ўсяго маем удосталь. Дык чаго шкадаваць і ўласны страўнік абманваць?

Яна паглядзела ў акно, за якім роўным шэрагам дамоў цягнулася яе родная вёска Новая Воля, вёска двухкіламетравай даўжыні, заможная, пераважна мураваная.

Марыя Буйко перажыла тут дзве сусветныя войны, а пасля кожнай з іх даводзілася пачынаць усё ад пачатку.

— Як успомню, то аж верыць не вельмі хочацца, — вярнуўшыся да сваіх піражкоў, сказала яна. — Калі ў гэтую, апошнюю вайну ўсё ў нас прапала, а дзеці былі маленькія, дык паўвёскі даводзілася мне аббегчы, каб раздабыць ледзь які кубак малака, бо свайго мы не мелі. А цяпер кожны дзень мы самі па 50 літраў, а летам дык і больш, дастаўляем да злеўні. Аж рук не чуеш, калі такую колькасць малака выцягнеш з кароў. Жывёлу добра кормім, дык і яна адплачваецца высокімі надоямі.

Адвараныя піражкі засквярчалі на растопленым смальцы. Марыя Буйко на хвіліну адступілася ад пліты, каб гарачыя пырскі не папарылі ёй рукі.

— Аднак не з таго ў нас асноўны даход. Тут, у Новай Волі, сяляне пераважна займаюцца гадоўляй пародзістых парасят. Кормім мы іх да ста кілаграмаў, а пасля прыязджаюць тыя, што займаюцца скупкай, і забіраюць іх ад нас. Плоцяць добра, няма чаго наракаць. Дык і мы стараемся...

Спадабалася мне гэтае працавітае, руплівае, спакойнае шчасце ў сямейным кругу. Жыццё без страху за заўтрашні дзень, з надзеяй на будучыню, якая, напэўна, (яны ў гэтым пераканаsuccessfully), будзе яшчэ лепшай.

Азіраюся па гасціннай хаце сям'і Буйкаў. Прасторная мураванка абсталявана паводле патрабаванняў навейшай моды. Ужо з першага позірку відаць, што жывуць тут людзі, якія даўно і назаўсёды развіталіся з традыцыйнай калісьці сялянскай бядою.

— Пачакайце яшчэ хвілінку, — заявіла яна, калі я пачаў развітвацца. — Зараз вернецца з лесу сын, а са школы прыбягуць унукі, дык і вы разам з намі пакаштуеце мае піражкі.

І сапраўды хацелася мне застацца тут крыху даўжэй, каб і піражкі пакаштаваць і яшчэ болей адчуць атмасферу сямейнага шчасця, якога на старыя гады дачакалася Марыя Буйко. На жаль, абавязкі неадкладна клікалі мяне ў дарогу.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

або басіком, тады ж гумовых ботаў не ведалі, і ў мароз і ў спёку, тыдняў двагры і больш. Добра, калі цёпла, а як, бывала, пас замерзне, і мы сідзім тыдзень, а то і больш у той будзе, бы сабакі. Ужэ толькі як зажанем у Тыкоцін і здамо пас, тады крыху адпачнем, бо вяртацца дахаты на апараных нагах ды змораным да немагаты было вельмі цяжка. Горкі, крывавы гэта быў грош — арэлька...

У вайну гітлераўцы ўсе пяць вёсачак разбурылі, а жыхароў разагналі па свеце.

Пасля вайны пачыналі бабігорцы з пяці сваіх пальцаў: і выворвалі аблагі і будаваліся. Доўгія гады нялёгка тут было. Толькі дзесьці каля 1970 года пачалося сапраўды светлае жыццё. Яго аснову склала праведзеная ў 1965 г. меліярацыя 180 гектараў лугоў і пашы, камасацыя зямлі ў 1968 г. і, нарэшце, электрыфікацыя вёсачак у 1970 г. Падвоіліся ўраджаі на палях, разгарнулася гадоўля быдла і свіней. Калі тут раней гаспадар трымаў 1-2 кароўкі ды „за хвост іх вясною падымаў“, дык цяпер той жа гаспадар трымае па 5-7 штук высокамалочных кароў, здае штук па 20-25 кормнікаў у год.

— І сталі мы цяпер ужо не бабігорцы, а чалавекі! — з сілай падкрэсліў мой размоўца Фёдар Зубрыцкі, і пачакаўшы дадаў: — Так, чалавекамі мы сталі, от што!..

**Мікалай Гайдук**
**Фота аўтара**



*Колішні дах, пакрыты драніцамі.*

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

*ВЯСЕЛЬНАЯ*




*Прыды, маты, подывысь,*
*што мы тобіе прывэзлі:*
*чы овэчку, чы тэліе,*
*чы нэвіестку-крутэліе,*
*чы овэчку, чы тэліе,*
*чы нэвіестку-крутэліе,*
*Гоп!*

Ад Марыі Семянюк, 1905 г. нараджэння, і Кацярыны Місеюк, 1899 г. нараджэння, вёска Тымянка гм. Мілейчыцы, запісаў 25 лістапада 1975 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

# Поспех СКР у Васількове

Спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў у Васількове мае пяцьсот гектараў зямельных угоддзяў V і VI класаў, у тым ліку 200 гектараў лугоў і паш. Хоць зямля тут адна з горшых у ваколіцы, аказваецца, што пры ўмелым яе выкарыстоўванні можна мець нават задавальняючыя вынікі.

СКР у мінулым годзе прадала дзяржаве 200 тон жыта, ячменю і аўса. Такой колькасці збожжа не здалі індывідуальныя сяляне ўсёй Васількоўскай гміны. А калі дадаць, што спулдзельня сабрала і прадала на пункце скупкі ГС 60 тон бульбы (яна і на горшай глебе ўдаецца), дык ужо можна смела гаварыць пра эфекты.

У сёлетняе жніво спулдзельня ў Васількове касіла збожжавыя культуры 16-цю снопавязалкамі і 5-цю камбайнамі (у тым ліку двума „Бізонамі“). СКРаўскія трактарысты скасілі ў сваёй гміне 1300 гектараў збожжа ў 88 індывідуальных гаспадароў. З зямельных угоддзяў дзяржфонду сабралі ўраджай ў сярэднім 30,6 цэнтнера з гектара. Найбольш — жыта, аўса і грэчкі. Разам са 103 гектараў. Апрача таго, з 28 га — кукурузы. На пункты скупкі спулдзельня даставіла 320 тон зерня, гэта на 120 тон больш, чым у мінулым годзе. У сёлетняй жніўнай акцыі асабліва добра працавалі трактарысты Уладзіслаў Гурко, Мар'ян Гурко, Антон Казлоўскі і Антон Аўгустыновіч, а таксама камбайніст Мікалай Лапата і кіраўнік гуртковай базы Здзіслаў Кулеша.

У верасні спулдзельня засеяла 100 гектараў азімага жыта, сабрала сена са 100 гектараў сенажацяў, зрабіла падарыўкі на 150 гектарах і высеяла 650 тон вапны, у тым ліку 550 тон на зямлі з дзяржаўнага фонду. Значную колькасць кукурузы і траў засіласавалі. Варта дадаць, што СКР гадуе 400 бычкоў на мяса і 220 цялят, якіх зімой трэба будзе пракарміць.

І вялікая заслуга кіраўніцтва СКР у Васількове на чале з дырэктарам Дамінікам Власкоўскім у тым, што спулдзельня патрапіла ўсяго за адзін год свайго існавання (арганізавалася 1 кастрычніка мінулага года на базе васількоўскай МБМ і сельскагаспадарчых гурткоў з Сакалды і Чорнай Вёскі Касцельнай) дабіцца такіх вынікаў.

**Я. Цялушэцкі**

# Актыўны КГВ у Слабодцы

Гурток вясковых гаспадынь у Слабодцы (гміна Нараўка) мае значныя поспехі ў сваёй працы. Арганізатарам і кіраўніком яго з'яўляецца Марыя Харкевіч. Жанчыны арганізавалі ў сябе курсы крою і шыцця, кулінарны, а таксама вырошчвання маловядомай агародніны, м. інш. капусты калярэпы і ярмужа. Амаль усе гаспадыні маюць перад сваімі дамамі прыгожыя кветкавыя агародчыкі і ўпарадкаваныя панадворкі. З выдатнай дапамогай у арганізацыі курсаў дагэтуль прыходзілі жаночай арганізацыі Яўгенія Рэент, якая раней працавала ў ПЗКР у Гайнаўцы і малады аграном Аляксандр Харкевіч з Міхнаўкі. Аграном вучыць, як найлепш вырошчваць раннюю гародніну ў інспектах і як выкарыстоўваць з гэтай мэтай кампост. Цяпер кабеты са Слабодкі прадаюць расаду капусты, агуркі і памідоры. Марыя Харкевіч заваявала нават званне найлепшага агародніка.

Варта адзначыць, што зараз кожная слабодская гаспадыня ўмее зварыць смачную страву, а таксама спячы торт або вясельны каравай. Патрапіць пашыць сабе лёгкую вопратку.

У канцы гэтага года КГВ у Слабодцы арганізуе ў сябе вяндлінярскі курс, а таксама, калі будзе дапамога з боку гмінных улад, пазычальню сурвэтаў, усялякай хатняй пасуды і іншага змеханізаванага кухоннага абсталявання. Большая колькасць пасуды асабліва неабходная пры нагодзе хрэсьбін, вяселля або імянін.

(ця)

# Абяцалі — выканалі?

Пісалі мы аб дрэнным адрэзку дарогі ў цэнтры вёскі Ласінка ў Нараўскай гміне. На нашу крытыку мы атрымалі адказ гмінных улад і змясцілі яго ў „Ніве“ (№ 13 ад 30 сакавіка 1975 года). Прыводзім яго ніжэй:

Urząd Gminy w Narwi nawiązując do Waszego pisma z dnia 28.I.1974 r. uprzejmie informuje, że przebudowa ulicy we wsi Łosinka — 0,7 km została ujęta w planie społeczno-gospodarczym rozwoju gminy na 1975 r. i budowa ta zostanie wykonana.

Z up. Naczelnika Gminy
Irena Fiedoruk
Sekretarz Biura

Былі мы некалькі разоў у Ласінцы ў жніўні гэтага года. І ніякай перабудовы вясковай вуліцы не ўбачылі. У тым месцы, дзе яна найбольш дрэнная, навезена крыху пяску, але па ім яшчэ горш ехаць. У дождж так і стаяць тут найбольшыя лужы. Выбоіны як былі так і ёсць.

**Іван Непаседа**

## ФОТА ПА ЗАКАЗУ — KRAM



*Заказвалі:* дзяўчаты з Бельска, Страблі і Парцава.

## КАНСУЛЬТАЦЫЯ ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: У памершага засталіся жонка і сын, і суд сцвердзіў, што яны наследуюць гаспадарку па палавіне. Гаспадарку гэту атрымаў спадкадаўца пасля вайны пры падзеле маёнткаў у парадку сельскагаспадарчай рэформы. У гэты час ён ужо быў жанаты, але гаспадарку атрымаў на сваё імя і прозвішча. Ці гаспадарка лічылася выключнай уласнасцю спадкадаўцы? А калі не, дык у якіх частках наследуюць яе жонка і сын? Калі гаспадарка была супольнай уласнасцю спадкадаўцы і яго жонкі, дык ці жонка можа даходзіць сваёй часткі, паколькі суд сцвердзіў, што яна наследуе з сынам па палавіне?

АДКАЗ: Усялякая маёмасць, набытая пасля шлюбу, з'яўляецца супольнай маёмасцю мужа і жонкі. Не становіцца супольнай маёмасцю толькі тое, што муж або жонка атрымалі ў спадчыне або дараванні. Маёмасць, якую атрымалі муж або жонка ў выніку надання дзяржавай пры падзеле маёнткаў, з'яўляецца супольнай іх уласнасцю, незалежна ад таго, на каго выстаўлена пасведчанне ўласнасці. Таму да спадчыны належыць толькі палавіна гаспадаркі, і з гэтай часткі жонка і сын атрымаюць па палавіне. У выніку гэтага жонка мае права да 3/4, а сын да 1/4 гаспадаркі. Сцвярджэнне судом, што жонка і сын наследуюць па палавіне гаспадаркі, не парушае правоў жонкі да той палавіны, якая з'яўляецца яе ўласнасцю.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

...у далёкаўсходняй тайзе расце жалезная бяроза, якую прырода надзяліла цёмна-фіялетавай карой. Яна мае такую трывалую і шчыльную драўніну, што замяняе метал. Робяць з той бярозы падшыпнікі, паўзункі ў ткацкія станкі і інш.

...ёсць і каменная бяроза, якая расце толькі на Камчатцы, Сахаліне. Кара ў яе калматая. Кінеш у ваду кавалак такой бярозы, дык ён булькае, як камень.

...на пярэднім краі барацьбы з холадам знаходзіцца палярная бяроза. Сцелючыся па тундры, яна вытрымлівае шалёны націск ледзяной Арктыкі. Засыпаная снегам яна чакае кароткай палярнай вясны, каб зацвісці і аддаць ветру насенне, ажывіць тундру, упрыгожыць яе. Хоць лютыя маразы, вятры, завірухі прыціснулі яе да зямлі, але перамагчы не здолелі. Яна жыве!.. (ця)



## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астрон! Мне амаль 20 год. Засталася я ў бацькоў адна. Цяпер раскажу табе свой сон. Знаеш, у нас за клуняю растуць тры яблыні. А сніліся мне толькі дзве. Здаецца, іду я за клуню, а там на месцы, дзе расла вялікая, прыгожая, салодкая яблыня, дзіўна пуста. Гляджу, а тую яблыню мой тата перасадзіў на поўдзень, бліжэй дарогі, ніжэйшай, кіслай яблыні. Ды перасадзіў так, што можа ад 5 да 7-мі карэнняў выглядае, значыць, над зямлёй, быццам яе закапалі на 30 см заплытка. З другога боку яблыні стаіць мой тата, і я яго пытаю: „Тата, навошта вы яе перасадзілі?" Тата нічога не сказаў, быццам падумаў: „Так трэба". „Тут жа яна не будзе расці", — гавару я. А тата напэўна адказаў: „Будзе". А я падумала: „Напэўна не будзе", — і засумавала.

Астроне, прашу, напішы, што абазначае мой сон.

Мірка

Сяджу з сяброўкай на дрэве. На галінках сёдлы, і мы ў іх сядзім. Пачынаем з сядла на сядло пераскокваць. Сяброўка хоча мне памагчы пераскочыць, хапае за маё сядло, і я падаю ўніз, але раптоўна нейкі штуршок выбівае мяне назад.

Валя

**Мірка!** У тваёй радаснай маладосці будзе нейкае заклапатанне. Яблыня — наогул дрэва раздору. Ці па намове свайго таты ты не заменіш сваё салодкае дзявоцтва на кіслейшае супружаства з нялюбым?.. Зробіш так, можа, бо так будзе трэба, а не таму, што сама будзеш гэтага хацець? Карэнні яблыні, якія выглядалі, якраз таксама сведчаць аб пакорнасці і цяжкай працы. Таму табе і зрабілася сумна.

**Валя!** Цябе чакае слава і поспех у справах. Лазіць па дрэвах вярхом ці катацца на іх галінах, як гэта ты рабіла, — вельмі добры сон.

Астрон





Дарагое Сэрцайка, пакінуў мяне хлопец, якога я так шчыра кахала. Асталася адна і свет цэлы пустым мне здаецца. Мне няпоўных 18 год а жыццё страціла для мяне ўсялякі сэнс. Два гады мы хадзілі разам, кахалі адно другое, так прынамсі мне здавалася. Верыла яго мілым прыгожым словам. Ваня вельмі прыгожы і такога другога я больш напэўна ўжо не спаткаю. Ён часта прыязджаў да мяне дахаты, бывала, што і некалькі дзён дамоў не вяртаўся. І людзі ў вёсцы аб гэтым ведалі. Але я на нішто не звяртала ўвагі, бо Ваня гаварыў, што як будзем паўналетнімі, дык пажэнімся. Але ўжо паўгода як пакінуў мяне. Знайшоў сабе іншую і ўжо ажаніўся. А маё жыццё стала вельмі сумным. Хаця ўжо прайшло столькі часу і яго сэрца забрала іншая, я не магу знайсці спакою. Не магу гаварыць з хлопцамі, бо здаецца мне, што ўсе яны такія ж дрэнныя і няверныя, як Ваня.

**Ірэна з Дуброўшчыны**

Ірэна! Няпраўда, не ўсе хлопцы дрэнныя. Табе толькі цяпер так здаецца, бо ў цябе яшчэ свежая рана, якую зрабіў табе твой каханы. Але рана гэтая, як і ўсе сапраўдныя раны, з часам зажыве. І следу па ёй не астанецца. І нельга асуджаць на прыкладзе аднаго Вані ўсіх хлопцаў. Здараюцца такія, але ёсць жа хлопцы салідныя і верныя. І прыгажуноў у нас не бракуе. Але вельмі важна, каб быў ён прыгожы не толькі з вонкавага выгляду, але каб і красаваў ён сваім характарам. Гэта другое намнога важнейшае. І жадаю табе, каб такога вось хлопца сабе прыдбала.

**Сэрцайка**

## КУТОК ПРАКТЫЧНЫХ ВЕДАЎ





### РЭЎМАТЫЗМ І ЯК ХАРЧАВАЦЦА ПРЫ ГЭТАЙ ХВАРОБЕ

Кажуць, што рэўматызм — гэта прафесіянальная хвароба сялян. Сапраўды, на вёсцы гэта хвароба вельмі распаўсюджана. Аднак, не толькі на вёсцы. Як сцвярджае статыстыка, у розных краінах прызнакі рэўматызму выступаюць у кожнага чацвертага дарослага чалавека.

Як змагацца з рэўматызмам? Як не дапусціць да таго, каб хвароба развівалася? Што рабіць, каб не балела і косці не дэфармаваліся? Як харчавацца?

Наконт дыеты для хворых на рэўматызм ёсць шмат шкодных поглядаў. Многія, напрыклад, лічаць, што такім хворым нельга есці мяса. Такі погляд з'яўляецца вельмі шкодным, бо як жа не есці мяса, калі яно багатае бялком, а бялок патрэбны для будовы касцей! Косць толькі з выгляду, калі ўжо вырасце, не змяняецца. У сапраўднасці нават у дарослага чалавека яна пастаянна знішчаецца і будуецца нанава, хаця яе велічыня і форма не змяняюцца. Таму неабходны тут для гэтай „адбудовы" пастаянны давоз будаўнічых матэрыялаў, якімі з'яўляюцца ў асноўным: бялок, кальцый і вітаміны.

Малако дзякуючы вялікай колькасці бялку і кальцыя павінна быць пастаянным пунктам у штодзённым рацыёне хворага на рэўматызм. Павінен ён выпіваць не менш, чым паўлітра малака кожны дзень. Вельмі здарова было б яму есці ў сувязі з гэтым і белы сыр.

Неабходны умовай харчавання хворых на рэўматызм з'яўляюцца вітаміны. Асабліва неабходна памятаць аб вітаміне С, а таксама аб вітаміне $D_3$, які папярэджвае і лечыць рахіт.

Хворыя на рэўматызм могуць есці самую разнастайную гародніну. Неабходна абмежаваць толькі рэвень (рабарбар) і шчаўе, паколькі ў іх знаходзіцца шмат шчавелевай кіслаты, дзякуючы якой дрэнна прысвойваецца кальцый.

Зразумела, што ўсе вышэй пададзеныя парады датычаць людзей, якія маюць правільную вагу цела. Для людзей, у якіх вага вышэй нармальнай, доктар павінен прыпісваць адпаведную дыету, каб яны змаглі пахудзець.

**Эскулап**





А ў партызанскім штабе неспакой за лёс Арлоўскага і яго групы ўжо змяніўся адчаем: мінуў месяц, паўтара, а ён не вяртаўся. Непакоіўся і камандзір брыгады іспанскай арміі Хуста Лопес, на ўчастку якога Арлоўскі перайшоў лінію фронту.

— Усе лічылі яго загінуўшым, — успамінае былы камандзір Мадрыдскага інтэрнацыянальнага разведвальна-дыверсійнага атрада Л. П. Васілеўскі.

У канцы ліпеня групу герыльерас пад камандай Арлоўскага сустрэў радасны Хуста Лопес. Неўзабаве смельчакоў абдымалі ў партызанскім штабе. Каля 800 кіламетраў прайшлі адважныя па тылах мяцежнікаў, пабывалі ў трох правінцыях, пускаючы пад адхон эшалоны, узрываючы масты, знішчаючы жандараў.

Неўзабаве пасля гэтага бяспрыкладнага рэйду, як назвалі ў партызанскім штабе паход групы Арлоўскага па тылах мяцежнікаў, Арлоўскага накіравалі ў Мадрыдскі інтэрнацыянальны разведвальна-дыверсійны атрад. Атрад налічваў каля 150 байцоў і камандзіраў. Палову яго склалі іспанцы, у асноўным андалузскія батракі, смелыя і мужныя людзі, але большасць з іх не служыла ў арміі, не ведала, што такое воінская дысцыпліна, да таго ж многія з іх былі проста анархістамі. Другая палова — інтэрнацыяналісты: балгары, немцы, французы, англічане, амерыканцы, канадцы, латышы.

Падрыхтаваўшы некалькі разведвальна-дыверсійных груп, Леў Васілеўскі і Кірыла Арлоўскі перакідвалі іх цераз лінію фронту. Групы выводзілі са строю чыгуначныя і шасейныя камунікацыі праціўніка, наладжвалі засады, бралі языкоў.

Значэнне і важнасць дзейнасці партызан, іх барацьба ў тыле праціўніка былі прызнаныя. Гэта выявілася, у прыватнасці, і ў тым, што ўсе байцы атрада ў герыльерас атрымлівалі двайны паёк і двайную грашовую плату. Па-свойму ацанілі дзейнасць герыльерас і фашысты: за кожнага партызана — жывога ці мёртвага — Франка назначыў вялікую ўзнагароду — 25 тысяч песет.

Яшчэ два разы хадзіў Арлоўскі з групай герыльерас у франкісцкі тыл, але больш яму не дазволілі. „Быў катэгарычны загад, — успамінае Л. П. Васілеўскі, — не даваць Арлоўскаму падобных заданняў і захаваць яго, не рызыкаваць яго жыццём. Хоць само знаходжанне ў асаджаным Мадрыдзе было звязана з вялікай рызыкай".

Жыў Арлоўскі ў штабным доме атрада, які знаходзіўся ў прадмесці Мадрыда Лас Вегас. Бываў ён і ў атэлі „Гейлард", дзе жылі савецкія ваенныя спецыялісты, якія дзейнічалі на Цэнтральным фронце. Тут Арлоўскі сустракаўся з Мігелем Марцінсам — карэспандэнтам „Праўды" Міхаілам Кальцовым, што адначасова быў і палітычным саветнікам рэспубліканскай арміі, не раз сустракаўся з пісьменнікам Хемінгуэем, які любіў наведваць савецкіх спецыялістаў.

Пазней у рамане „Па кім звоніць звон" Хемінгуэй самыя цёплыя, самыя пранікнёныя словы прысвяціць валанцёрам свабоды — байцам інтэрнацыянальных брыгад і атрадаў герыльерас.

Увесь жа асноўны час Арлоўскі, вядома, быў у атрадзе: праводзіў занятці з байцамі і камандзірамі, гутарыў з імі, перадаваў ім свой багаты вопыт.

Байцом Мадрыдскага атрада быў Леў Савінкаў, сын вядомага эсэра Барыса Савінкава. Калісьці Савінкаў разам з Булак-Балаховічам стварыў на Беларускім Палессі шматлікія банды, а Кірыла Арлоўскі са сваім атрадам паспяхова змагаўся супроць гэтых банд. А цяпер лёс звёў Арлоўскага з сынам Савінкава. Некалі Барыс Савінкаў лічыў сваім ідэалам Мусаліні, сустракаўся з ім, прасіў грошай на фінансаванне авантур супроць Савецкай улады. Цяпер яго сын змагаўся з чорнарубашачнікамі Мусаліні за справу, барацьбе з якой бацька прысвяціў усё сваё жыццё.

Льву Савінкаву было трохі болей за дваццаць. Адукацыю ён атрымаў у Францыі, а адтуль разам з нямногімі белаэмігрантамі-добраахвотнікамі адправіўся ў Іспанію, каб у інтэрнацыянальных брыгадах змагацца на баку рэспубліканскага ўрада.

Леў Савінкаў, ведама, і не здагадваўся, што Стрык, які выступаў у дваццатых гадах пад імёнамі Вані, Аршынава, Мухі-Міхальскага, не раз спыняў каварныя антысавецкія задумы Савінкава-старэйшага. Леў паспяхова пераймаў вопыт партызанскай барацьбы, добра авалодаў падрыўной справай, некалькі разоў хадзіў у тыл франкістаў і, як успамінае Л. П. Васілеўскі, паказаў сябе чалавекам смелым. Яму было прысвоена званне лейтэнанта Іспанскай рэспублікі, а потым і капітана.

Педагагічны талент Стрыка заўважыла і высока ацаніла камандаванне — яго назначылі выкладчыкам спецыяльных школ, дзе рыхтаваліся партызанскія кадры.

# ТРЫБУНА чытачоў

### КУДЫ ДЗЕЎСЯ АМІЯК?

Многія гаспадыні пякуць featureзнае цеста. Да некаторых патрэбны аміяк — такі белы парашок. Ужо ад доўгага часу не паяўляецца ён у нашых магазінах. Няма ні ў Бельску, ні ў Беластоку. Добра было б таксама, каб была мука з бульбы, вельмі ж патрэбная гаспадыням.

**Джэны А.**




**Дзядзьку Квасу прысвячаю**

*Дзядзька Квас, ты не журыся!*
*Часцей у „Ніве“ паказжыся.*
*І не думай сам пра смерць ты —*
*Няхай возьмуць яе чэрці!*
*Ты жыві на цэлы век,*
*Будзь здаровы чалавек —*
*Таго жадае табе „Ярош“,*
*Што крытыкуе ўсіх за грош.*
*Апішы аб бракаробах,*
*Іх здароўі і хваробах,*
*Як яны ўсё папіваюць,*
*Пра работу забываюць.*
*Як Барсук усё фундаваў,*
*Каб рова в жыце не капаць;*
*А як Тадзік той, з-за рэчкі,*
*Пакасіў у жыце сцежкі,*
*Каб збожжа не вымінал —*
*Сцежкамі равы капалі.*
*Вышла ўсё наадварот:*
*Там дзе жыта, зрабіў брод.*

**Ярош**

**Сумленная праца**

Ад шасы уніз направа
Стаіць склеп наш, быццам пава,
У далочку на пясочку
Ёсць тут мейсца і ў куточку

Калі дзверы адчыняеш,
Ты людзей тут шмат вітаеш,
А скляпова, як дзяўчынка,
Спрытна лічыць, бы касірка.

Яна цэлы дзень бясконца,
Проста да заходу сонца
Людзей шчыра залатвяе —
Матар'ялы прадавае.

Наша Валя пра склеп дбае,
Матар'ялы справаджае.
Штодзень з Таніцы із ранку
Прыбягае яна ў лаўку.

Хаця працы ёй тут поўна,
(Дваццаць год працуе роўна,
Без ашыбак, без абмана).
Там ніколі няма манак.

Пра такіх людзей трэ дбаці
І скляпову шанаваці,
А за працу ёй дзянкую
І з нагродамі віншую.

**Л. С.**
Юшкаў Груд

---

Камандаванне рэспубліканскай арміі ўжо даўно пераканалася ў важнасці дзейнасці герыльерас і даручала ім усё больш складаныя аперацыі. І калі армія ў ліпені 1938 года рыхтавалася да наступлення ў раёне Эбра, генеральны штаб арміі даручыў камандаванню 14-га корпуса перакінуць у тыл мяцежнікаў дзве партызанскія брыгады.

Аднак сілы былі не роўныя. Працістаяць масіраванаму наступленню франкісцкіх, нямецкіх і італьянскіх войск рэспубліканцы ўжо не маглі. Якраз у разгар бітвы за Эбра рэспубліканскі ўрад аб'явіў аб сваёй згодзе з прапановай Лонданскага камітэта па неўмяшанні: вывесці з Іспаніі замежных добраахвотнікаў. І хоць германа-італьянскія войскі працягвалі змагацца на баку Франка, інтэрнацыянальныя атрады і брыгады былі адазваны з фронту і расфарміраваны. Воіны-інтэрнацыяналісты — валанцёры свабоды — пакідалі Іспанію і вярталіся ў свае краіны.

Развітваючыся з Іспаніяй, са сваімі таварышамі па зброі, многія з іх добра разумелі, што наперадзе іх чакае працяг пачатай у Іспаніі жорсткай барацьбы з фашызмам. Прадчуваў гэта і Кірыла Арлоўскі. У канцы 1938 года ён вярнуўся на Радзіму. За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў Іспаніі, ён быў удастоены вышэйшай узнагароды — ордэна Леніна.

**(Працяг будзе)**

## З пачуццём адказнасці за макулатуру

Прайшло амаль год часу, як моладзь школ Нараўкаўскай гміны сабрала макулатуру. Паперу, як вядома, складаць няма дзе. Складаюць яе пераважна ў школьных шопках. А да абавязку ГС-у ў Нараўцы належыць забраць яе сваім транспартам і адаслаць туды, дзе на яе чакаюць. На жаль, ГС-у ў Нараўцы не вельмі спешна забіраць сабраную макулатуру.

Дырэктар школы можа сто разоў прасіць і лопнуць са злосці ды на гэтым і канец. Калі ўсе людзі адносяцца да зборкі макулатуры з вялікім пачуццём адказнасці, то з боку ГС-у ў Нараўцы відаць абыякавасць. Чаму? Праблема збору макулатуры ў нас павінна быць вырашана добра. Практыка такая, як вышэй апісаны прыклад, не можа паўтарацца.

**Крыніца**

## ВСС для сваіх пенсіянераў

Ніводнае прадпрыемства не дбае так пра сваіх былых працаўнікоў, як аддзел ВСС у Гайнаўцы. Пры радзе аддзела арганізаваны клуб „Сеніёра“, які вядзе актыўную дзейнасць. У адну нядзелю жніўня сваім пенсіянерам аддзел ВСС арганізаваў аўтобусную экскурсію ў Варшаву.

Вельмі падабаўся людзям Цэнтральны вакзал і Вісластрада, а таксама іншыя аб'екты сталіцы. Пабывалі экскурсанты на плошчы Звыценства, дзе адбывалася ўрачыстая змена варты ля магілы невядомага салдата. Познім вечарам пакідалі Варшаву. Хоць змучаныя, ніхто не заснуў праз усю дарогу — дзяліліся ўражаннямі аб Варшаве, успаміналі маладосць і сваю працу.

Кіраўніком экскурсіі была Мараўская Яніна, якая старалася, каб мы як найбольш убачылі, і каб былі задаволены. Так яно і было. І за гэта шчырае дзякуй.

**Э. Вайсковіч**

## Мужык вып'е?

31 жніўня давялося мне пабываць у вёсцы Тарнопаль і зайсці ў краму ГС. Некалькі чалавек разглядалася па краме. Жара стаяла невыносная. І захацеў я купіць у краме бутэльку піва, якога не давялося выпіць, бо было яно папсаванае і так кіслае, што пашчэнкі магло павыкручваць.

Пытаю прадаўшчыка, чаму прадае людзям такі тавар, а ён адказвае: прывязлі і трэба было прыняць — 100 бутэлек. Дык гэтакім чынам наражаецца 100 чалавек на грашовую затрату і на затрату здароўя.

Хачу задаць пытанне: ці мужык (таксама чалавек) не любіць выпіць добрае піва? Ці прадаўшчык сапраўды павінен прымаць папсаваны тавар? Ці ГС у Нараўцы будзе ў будучыні паіць мужыкоў гэткай гадкасцю? (вб)

## Варта пацікавіцца

У вёсцы Істок, што ў гміне Нарва, жыве Кацярына Паўлючук. Яна добрая гаспадыня і адначасова майстар у прадукцыі дываноў. Тут уласныя ўзоры выпрацаваныя па ўласнай інтуіцыі. Прыгажосць яе творчасці склікае сюды многіх зацікаўленых. Яна не можа вырабіцца ў заказах.

Вядзе супольна з мужам 8-гектаровую гаспадарку, добрую гадоўлю — 4 каровы, 3 ялоўкі, 5 свіней. Але найпрыгажэйшыя яе дываны.

**Аляксандр Закройшчык**

## Не заўсёды...

Не заўсёды меліяранты падводзяць. Чаму я так распачаў? Трэба толькі прачытаць пару „Ніваў“. Усюды людзі скардзяцца на меліярантаў з Бельска, што яны грошы бяруць, а равоў не чысцяць.

Слава ўсявышняму — у Галадах пра гэты абавязак меліяранты не забылі. Некалькі гадоў таму выкапалі тут равы. Ад таго часу раз іх пачысцілі — грамадскім чынам і равы пачалі зноў зарастаць. І ўжо быў вялікі час, каб іх зноў чысціць. Работа чакала цяжкая, бо вада стаяла ў равах. Але зрабілі работу — абкасілі равы і паглыбілі іх. Каб так заўсёды і ўсюды.

**В. Анапюк**

## У адрас ГП БГКТ

Было лета. А з ім вясёлы час аматарам спорту, экскурсій і адпачынку. Рабочыя шукалі сабе культурных забаў у горах, над морам ці азёрамі. А што засталося селяніну? Хвілінка адпачынку ў цяньку пад дрэўцам. А як быць моладзі, якая вярнулася ў родныя вёскі са школ? Ой было нуды!

Кожны год БГКТ арганізуе ў беларускіх асяроддзях фэстыны. Чаму дагэтуль такі фэстын не адбыўся ў Чаромсе? Гэтую справу я ўжо кранаў (на старонках „Нівы“ таксама). Як дагэтуль, без выніку.

Нядаўна правёў размову на тую ж тэму з І сакратаром гміннага камітэта ПАРП **Казімірам Краўчыкам,** які мне сказаў: „Калі маеце „ходы“, дык цягніце іх як толькі можна. Мы паможам, што трэба. Вялікім поспехам у нас карысталіся канцэрты беларускіх калектываў. За прысутнасць жыхароў Чаромхаўскай гміны на фэстыне БГКТ я гарантую“.

Чакаем у Чаромсе.

**Ул. Сідарук**

## Людзі добрай работы

Транспартнае прадпрыемства ўнутранага гандлю (ПТГВ) у Бельску ў летні сезон мела павышаныя заданні. Як сцвярджае дырэктар, шафёры працавалі вельмі многа. Дырэктар Іван Нікалаюк за ўзор ставіць такіх шафёраў: Крупіцкі Аляксандр, Тышук Аляксандр, Сарокін Уладзімір, Анішчук Іван, Філіпюк Уладзімір, Панцарэў Лявон. На іх сумленнасць і добрую працу можна заўсёды спадзявацца.

У ПТГВ працуе зараз 54 асобы. Брыгадзірам рамонтнай брыгады з'яўляецца Толік Зінкевіч. Ён адказны за спраўнасць самаходаў. І дырэктар, і брыгадзір гаворыць, што цесная ў іх база. Малая плошча для стаянкі машын, цесныя і даволі скромныя рамонтныя памяшчэнні (толькі адно). Не зважаючы аднак на гэтыя недахопы прадпрыемства працуе добра.

**Іван Кірызюк**

## Яшчэ раз аб бракаробах

У № 30 (1065) „Нівы“ ад 25 ліпеня 1976 года я пісаў аб бракаробах, якія выконваюць меліярацыйна-дранажныя работы на аб'екце Фальваркі II. Пісаў пра незасыпаныя цэмбравіны на меліярацыйных равах. А 31 ліпеня г.г. убачыў яшчэ большы балаган, які дзеецца на тым аб'екце. Ужо даволі даўно пакапалі тут дрэнажныя равы, пазакладалі дрэны і вымялі многа жыта і аўса. Дрэны пазакладалі, а равоў засыпаць няма каму. І сялянам двайная крыўда: жыта памялі, равы пакапалі, а селянін пры ўборцы збожжа вымушаны вакол гэтых равоў касіць касою, бо касяркай, ці снопавязалкай цераз равы не праедзеш.

Мне здаецца, што робяць гэтак бракаробы.

**М. Лук'янюк**

## Добры звычай

Рабочы выдавецкі кааператыў „Прэса-Кніжка-Рух“ — аддзяленне ў Бельску ўжо ў палове жніўня паведаміў усіх падпісчыкаў савецкіх газет і часопісаў, што пачалася падпіска на 1977 год. Гэта добры звычай і варта яго берагчы. Чытачы савецкіх газет і часопісаў не турбуюцца, дзе падпісаць, якая цана падпіскі, які тэрмін і так далей. Аб усім яго паведамляюць. А трэба сказаць, што чытачоў савецкай прэсы ў Бельску і яго ваколіцах многа.

**Мікалай Няплоха**

## Маладыя ў полі

Школьная моладзь пачатковых класаў групы сельскагаспадарскіх школ у Бельску ў ліпені і жніўні працавала ў ОГП ПГР Дыдулі, Новае Беразова і Парцава. Яны ў большасці палолі зелле, якое буяніла на палях, асабліва ў новаберазоўскіх цукровых бураках.

Моладзь жыла ў школьным інтэрнаце. ПГР сваімі самаходамі давозіў да працы. ПГР абяспечыў таксама газіраванымі напіткамі.

За працу моладзі школьнае самаўпраўленне атрымала ад ПГР-аў зарплату. Праца была карыснай і моладзі, і ПГР-ам.

**Мікалай Няплоха**

### НАРАКАЮЦЬ

Жыхары вёскі Сухавольцы (гміна Кляшчэлі) наракаюць на сваю прадаўшчыцу. Працуе яна ў краме больш 20-ці год, але з кожным годам усё горш.

У краме мясцовыя п'яніцы знайшлі прытулак і да позняй ночы прапіваюць свае грошы, а дома... вядома, бяда, авантуры. У краме і з чысцінёй, і з гігіенай дрэнна — брудна, непаладкі. Прадаўшчыца таргуе, як хоча і калі хоча. Не прызнае гадзін працы. Часта, замест яе самой, у краму прыходзіць таргаваць муж, бацька. А ці так можна? **П. Д.**

### НЕ Ў ЧАС

У Дубічах Царкоўных вулічнае электрычнае асвятленне загараецца не тады, калі яно найбольш патрэбнае. Запальваецца яно аж у 22 гадзіны, а гасне ў 2 гадзіны ночы.

А вечары цяпер даўжэйшыя і ўжо ў 20 гадзін цёмна на вуліцы. Ад гэтай гадзіны і найбольш людзей на вуліцы. І так праз дзве гадзіны. А потым на вёсцы пуста і святло магло б не гарэць. Нават і спаць тады лепш, бо ў акне не свеціць. Варта пераставіць аўтамат асвятлення на 20 гадзіну. **П. Д.**

### АДКАЗ НА АДКАЗ

У 29 нумары „Нівы“ з 18 ліпеня я прачытаў адказ праўлення ГС у Нарве на маю крытыку, змешчаную ў 15 нумары „Нівы“ пад загалоўкам „Беспарадак“.

Ўлады ГС у Нарве няхай паглядзяць па іншых крамах, дзе таксама нетыповыя бутэлькі, якія трэба прадаваць за каўцыяй. Калі прадаўшчыца прыме такую бутэльку ад людзей, то потым ад яе ніхто не хоча прыняць. Для прыкладу падам тут спажывецкую краму ў Трасцянцы, дзе трускаўкавы сок стаіць у нетыповых бутэльках.

Мяне адказ праўлення ГС у Нарве не задавальняе. Я прадаўшчыцы не вінаваціў, а пытаўся, дакуль будзе такі беспарадак у ВЗГС — аддзяленне гандлю ў Гайнаўцы, што яны дастаўляюць тавар у нетыповых бутэльках і дапісваюць за іх каўцыю.

Трэба, каб праўленне ГС у Нарве мацней пастукала ВЗГС у Беластоку, каб той прымусіў свой аддзел у Гайнаўцы даглядаць гэтыя справы.

Я, як карэспандэнт „Нівы“, прызнаюся, што за свае крытычныя артыкулы маю многа непрыемнасцей ад крытыкаваных асоб ці ўлад, але аб беспарадку пісаў і пісаць буду, а непрыемнасці перажыву. Бутэлька каштуе 3 зл, а непрыемнасцей на 300 зл. А што там! Неяк будзе!

**М. Лук'янюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ДА ПУБЛІКАЦЫІ „ЦІ ГЭТА РАМОНТ?“

**„Ніва“ № 29 ад 18.VII.76**

Адказвае: **Rejon Dróg Publicznych w Bielsku Podlaskim.**

W odpowiedzi na notatkę zamieszczoną w nr 29 „Niwy” p.t. „Czy to jest remont?”, informuję, że na drodze Hajnówka — Dubicze Cerkiewne — Kleszczele w bieżącym roku wykonywano remont cząstkowy i likwidowano skutki przełomów wiosennych, w związku z czym, zgodnie z obowiązującą technologią, najpierw rozebrano uszkodzoną nawierzchnię bitumiczną (i w tym okresie droga była rzeczywiście wyboista). Natomiast obecnie wszystkie „dziury” w jezdni zostały wyremontowane masą asfaltobetonową i droga jest w dobrym stanie. Ponadto droga Hajnówka — Kleszczele jest ujęta do planu robót na 1976 r. w ramach kapitalnych remontów i na całej długości tj. 21,5 km zostanie wykonana odnowa nawierzchni przez powierzchniowe utrwalenie grysami.

Z-ca dyrektora
Rejonu Dróg Publicznych
**Mikołaj Minkiewicz**

☆

### ДА ПУБЛІКАЦЫІ „ДЗЕ КУПІЦЬ АЛОВАК“?

**„Ніва“ № 27 ад 4.VII.76.**

Адказвае: **Gminna Spółdzielnia w Sokółce**

W związku z ukazaniem się w Waszym tygodniku notatki, odnośnie zakupu ołówka stolarskiego komunikuję, że faktycznie w sklepach naszych wystąpiły braki wymienionego towaru. Wynika to z tego, że hurtownia też nie posiadą tego towaru na stanie.

Po otrzymaniu ołówków przez hurt, uzupełnimy zaopatrzenie naszych sklepów.

Prezes Zarządu
**Stanisław Sańko**

**„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.**

Імпартгумар

# Чаму раўняецца плошча столі?

Сяджу, гляджу на стол. Цікава, думаю, дык плошча столі раўняецца плошчы падлогі, і наадварот...

Заходзіць начальнік.

— Зноў лодарнічаеш? — пытае.

— Лодарнічаеце! — папраўляю яго. Не вынošу панібрацтва ў службовых адносінах. — А сказаць дакладней — развіваю думку, — лодарнічаем.

— Як вас разумець? — пераходзіць на ветлівую форму начальнік.

— Вы і я.

— Дазвольце...

— Калі ласка. Што, напрыклад, вы сёння зрабілі? Пазванілі, напэўна, у главк, запрасілі якога-небудзь малаважнага начальніка на рыбу. Вы яго на службовай „Волзе" пракатаеце, а ён за вас слоўца закіне там, дзе гэта трэба.

— Выходзіць, я лодар?

— Атрымліваецца.

— Па-вашаму, я сёння нічога карыснага не зрабіў?

— Трэба думаць.

— Глыбока памыляецеся...

— Не думаю.

— Дарма! Сёння, ці ведаеце, я падпісаў загад...

— Аб прэміраванні цёткі Машы? Яна дастае вам добрыя цыгарэты.

— Не, аб вашым звальненні. За лодарнічанне!

Я ўважна, з пашанай паглядзеў на начальніка.

— Віншую вас, — кажу, — ад усёй душы!

— З чым?

— За справу ўзяліся!

— Дзякую, — гаворыць начальнік без энтузіязму.

— Калі ласка! З другога боку, — кажу, уздыхаючы, — мне вас па-чалавечы шкада...

— А што так?

— Пашлеце загад на зацвярджэнне, а там задумаюцца — ці не пара і ім узяцца за справу... З большай вышыні больш балюча падаць.

Памаўчалі сарамліва.

— Давайце, — кажу, — падпішуся пад загадам, што пазнаёміўся.

— Хвілінку, — гаворыць начальнік, — падрэдагаваць я яго павінен.

Начальнік пайшоў, акуратна зачыніўшы за сабою дзверы. Праз паўгадзіны сакратарша прыносіць загад. Падпісваюся пад ім і іду ў касу за прэміяй.

**Казбек Ісмагілаў**
(Алма-Ата)

— А ну, прайдзіся па восевай...





## ЧУЖАКІ

*Гуляць у хованкі не трэба —*
*Не дзеці мы, не юнакі...*
*І не дарога ўжо, а грэбля,*
*І ўсё ў абход, не напрасткі.*
*У тое пераcталі верыць,*
*Заўжды чым трэба даражыць.*
*Прапаў давер...*
*Няма даверу.*
*А без даверу як жа жыць?*
*І ўсё няладна*
*І няскладна...*
*Хутчэй бы ўжо канец які...*
*...Два сэрцы б'юцца несуладна —*
*Жывуць пад дахам чужакі.*

**Уладзімір Правасуд**

## МАЛАДЖОНЫ

Жонка: — Любы, мне так сорамна прызнацца: я не ўмею гатаваць абедаў.

Муж: — Не хвалюйся, любая, мне таксама сорамна — я не ўмею зарабляць грошы...

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Уласнік чыкагскага магазіна гаворыць свайму кампаньёну:

— Мы атрымалі новую партыю він з Францыі, садавіну з Італіі і какао з Галандыі...

— Цудоўна, — адказвае кампаньён, — вывесім вялікую рэкламу: „Атрымана новая партыя каланіяльных тавараў".

*

Адзін сіцыліец пытае другога:

— А што, сіньёр Берталучы не быў здзіўлены, калі ты пасватаўся да яго дачкі?

— Яшчэ як! У яго нават рэвальвер з рукі выпаў...

*

У час свецкага прыёму жонка гаворыць мужу:

— Ужо пятнаццаты раз ты падыходзіш да буфета за віскі. Што падумаюць людзі?

— Не хвалюйся! Кожны раз я гавару, што бяру віскі для цябе.

## ПАПРАВІЛА

Міколка і Элачка гулялі разам. Міколка пахваліўся:

— А мой брат Вася вучыцца толькі на круглыя пяцёркі!

— Маніш! Круглыя бываюць толькі нулі.



## ПАГОРШАЛА

Доктар: — Эх, чалавеча, з гэтаю хваробаю можаце жыць яшчэ шэсцьдзесят гадоў!

Хворы: — О-о-о! Дык, значыць, пагоршала мне?

Доктар: — Чаму?

Хворы: — А летась жа вы казалі, што з маёю хваробай можна жыць сто гадоў.

Усё людское нам не чужое.




## СТАРШЫНЯ

Аднойчы выбралі сабе людзі старшыню. Вось і заганарыўся новы старшыня, што і падступіць да яго страшна. Сядзіць нейк новы старшыня на ганку і бачыць, што нехта едзе вёскай. Клікнуў старшыня свайго пляменніка:

— Бяжы хутчэй ды спытай, што яно за птушка такая едзе цераз маю вёску?

Кінуўся хлопец мігам даганяць; бяжыць ды крычыць на праезджага, каб пачакаў. Спыніўся. Падбягае хлопчык.

— Што табе трэба? — пытае праезджы.

— Ды наш новы пан старшыня загадаў спытаць, што вы за птушка такая тут едзеце?

— Скажы свайму новаму старшыні, — сказаў праезджы, — што і ты дурань, і старшыня дурань!

Вярнуўся хлапец. Старшыня пытае:

— А што?

— Ды гэта нейкі знаёмы!

— Як!

— Так, так: і вас ведае, і мяне ведае!

— Як жа ён ведае?

— Ды казаў, што і вы дурань, і я дурань.

## КАСТУСЬ У ЦЫРЫ

— Калі вы цэліцеся, дык заплюшчвайце адно вока.

— Я спрабаваў і абодва заплюшчваць, усё роўна не пападаю.



...Лякарстваў цяпер так многа, што мімаволі думаеш: чым бы яшчэ захварэць?



— І даўно ты мяне чакаеш, любы?

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ірэны Якацюк і Ясі Зіневіч з Бельска змяшчаем песню*

## W ŚWIETLE NOCY, W MROKU DNIA

słowa: Marek Glogowski
muzyka: Andrzej Januszko
śpiewa Irena Jarocka

Znowu słońce nam przesłonił
twego smutku biały obłok.
Nie odpychaj mojej dłoni,
bo ja przecież jestem z tobą.

Mówisz, że czasem mnie tracisz,
że przychodzi znów samotność.
Sam nie wierzysz swoim słowom,
bo ja przecież jestem z tobą.

W świetle nocy
w mroku dnia
jestem z tobą,
jestem z tobą.
Możesz patrzeć
w moją twarz,
możesz śmiać się
tak jak ja.
Choć mnie woła
własny świat,
to powracam
wciąż na nowo.
Wtedy nawet
w twoich snach
jestem z tobą,
zawsze z tobą,
uwierz mi!

Nasza miłość jest bezpieczna,
nie zagraża jej codzienność.
Gdy do słońca się uśmiechasz,
wtedy właśnie jesteś ze mną.

Nie mów, że czasem mnie tracisz,
że przynoszę ci samotność.
Tak potrzebna mi ta pewność,
że ty zawsze jesteś ze mną.

W świetle nocy,
w mroku dnia
jesteś ze mną,
jesteś ze mną.
Mogę patrzeć
w twoją twarz,
mogę śmiać się
tak jak ty.
Choć mnie woła
własny świat,
to powracam
wciąż na nowo,
żeby nawet
w twoich snach
zostać z tobą,
już na zawsze
z tobą być!

## Курёзы

## КАРОВІНА ЛЮБОЎ

Уладальнік буйнай жывёлагадоўчай гаспадаркі ў Каінслендзе (Аўстралія) ажаніўся на маладой і прыгожай дзяўчыне. Пасля вяселля ўлюбёны муж загадаў татуіроўшчыку Норму Коллету вытатуіраваць на спіне жонкі такое ж кляймо, як на яго каровах. „Гэта для таго, — растлумачыў ён, — каб кожны, хто ўбачыць кляймо, ведаў, што жонка — гэта мая ўласнасць".

Жонка не супярэчыла мужу, яна паверыла ў святасць шлюбу і палымяную любоў да яе.

## САБАЧАЯ ДЫСКВАЛІФІКАЦЫЯ

Нямецкая аўчарка па клічцы Торра раптам дыскваліфікавалася. Яна несла верную службу ў парыжскім аэрапорце Орлі. У яе абавязкі ўваходзіла знаходзіць наркотыкі ў багажах пасажыраў. Але ў апошні час Торра пачала канфузіць таможнікаў. Аднойчы яна збілтала пах наркотыкаў з пахам дарагіх духоў і ўкусіла ні ў чым непавінную пасажырку. У другі раз аўчарка пачала нервова кружыць вакол пасажыраў, якія прыбылі з Касабланкі. Таможнікі навастрылі вушы, маўляў, кантрабанда выяўлена. Прапанавалі аднаму з пасажыраў адкрыць чамадан. Аўчарка сядзела і аблізвалася: у чамадане былі... сасіскі.

Таможныя ўлады паслалі аўчарку на перападрыхтоўку.




**Дырэктара фабрыкі забруджваючай раку, ударылі грашыма: выпісалі прэмію 9990 злотых замест 10 000.**